Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№8(672)
21 лютага 2013 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Фота Ул. Скрабатуна.

**Мосар–2013.** Рэспубліканскія спаборніцтвы па картынгу.

*Працяг тэмы на стар. 4.*



## МНС інфармуе
**на 19.02.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 160;
Гібель людзей – 33, з іх 1 дзіця;
Урон – 663.8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 11;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 116.8 руб.



## Пра ўвядзенне ў дзеянне Тэхнічнага кодэкса, які ўсталявала практыка

З 1 сакавіка 2013 года паводле загаду №228 Міністэрства энергетыкі РБ ад 28.11.2012 г. уводзіцца ў дзеянне тэхнічны кодэкс, які ўсталявала практыка, – «Правілы тэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі электраўсталявання». Дадзены тэхнічны кодэкс, які ўсталявала практыка (ТКП), дае патрабаванні бяспекі пры эксплуатацыі электраўсталявання, а таксама пры выкананні ў электраўсталяванні, якое дзейнічае, будаўнічых, мантажных, наладкавых, рамонтных работ, правядзенні выпрабаванняў, вымярэнняў і дыягностыкі.

Патрабаванні ТКП распаўсюджваюцца на ўсіх працадаўцаў і работнікаў, якія выконваюць указаныя работы, у сувязі з чым, кіраўнікам прадпрыемстваў неабходна арганізаваць вывучэнне работнікамі, якія выконваюць работы ва электраўсталяванні, патрабаванняў ТКП 427-2012(02230)«Правілытэхнікі бяспекі пры эксплуатацыі электраўсталявання» і правядзенне пазачарговай праверкі ведаў у электратэхнічнага персаналу прадпрыемстваў.

***А.Н. Ішуцін,***
*дзяржаўны інспектар па энергетычнаму нагляду.*

## Колькасць замежнікаў у беларускіх санаторыях вырасце

**У 2012 годзе ў нашых санаторыях адпачылі 227,3 тыс. іншаземцаў – на 17,5% больш, чым у 2011-м.**

**У 2013 годзе санаторыі Беларусі плануюць прыняць на 15% іншаземцаў больш, чым летась. Аб гэтым паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва Мікалай Мазур 18 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, у апошнія гады колькасць іншаземцаў у беларускіх санаторыях расце. У асноўным адпачынку ў здраўніцах Беларусі аддаюць перавагу расіяне. У 2012 годзе ў беларускіх санаторыях адпачылі 227,3 тыс. іншаземцаў — на 17,5% больш, чым у 2011 годзе. Для параўнання: у 2012 годзе пуцёўкі ў санаторыі купілі 317 тыс. беларусаў.

Больш за ўсё іншаземцаў — 34,7% — адпачывала ў Мінскай вобласці. Найбольш запатрабаваным быў адпачынак на Нарачанскіх азёрах і Мінскім моры. Таксама расіяне часта выбіралі санаторыі Гомельскай і Брэсцкай абласцей. На думку Мазура, перспектыву для прыцягнення турыстаў мае Віцебская вобласць, якая славіцца прыгажосцю прыроды.

Як паведаміў Мазур, па выніках 2012 года замежным грамадзянам было рэалізавана паслуг на 1 трлн. 33,3 млрд. рублёў, у 2,3 раза больш у параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года.

Значную выручку санаторыі атрымліваюць ад укаранення дадатковых паслуг — медыцынскіх працэдур, СПА-догляду і г.д., якія ў іншых краінах значна даражэйшыя, чым у Беларусі, адзначыў Мазур. У 2012 годзе беларускія санаторыі прапаноўвалі каля 200 дадатковых паслуг.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН***

## Браслаўскі раён

# Ледзь не спаліла сябе

■ Станіслаў Раманчук

**У пажылым узросце дажываць свой век у поўнай адзіноце не пажадаеш нават ворагу.**

Аднак такім чынам вымушаны змагацца з паўсядзённымі цяжкасцямі, асабліва ў моцныя маразы, дзясяткі тысяч нашых суайчыннікаў. Вось і ў вёсцы Каз'яны, што ў Браслаўскім раёне, цяжка прыйшлося сёлетняй зімой 83-гадовай пенсіянерцы, якая некалькі гадоў назад пахавала свайго мужа. Па словах аднавяскоўцаў, адзінокая бабуля пасля навагодніх і калядных святаў пачала паводзіць сябе неадэкватна. У сілу паважанага ўзросту яна перастала пазнаваць нават сваіх знаёмых і не размаўляла з суседзямі, якія прыходзілі дапамагчы ёй па гаспадарцы. Потым старая жанчына чамусьці некалькі сутак запар не цепліла печку ў хаце і зусім застудзіла памяшканне, якое стала нагадваць лядоўню. Калі ўжо зусім дапёк страшэнны холад, пенсіянерка дадумалася, як сагрэцца. Яна прама на кухонным стале растапіла вогнішча. Суседка, на шчасце, гэта заўважыла і своечасова пагасіла полымя. Аднак ад сваёй задумы бабулька не адмовілася. Як толькі сцямнела, яна зноў узялася за спічкі, і не дзіўна, што пачаўся пажар. Бязлітасны агонь знішчыў дах і перакрыцці дома, моцна пашкодзіў маёмасць, зрабіў чорнымі сцены. А вось суседзі не далі загінуць пажылой жанчыне, вывелі яе з палаючай хаты і выклікалі пажарных на дапамогу. Пасля гэтай гісторыі знайшоўся добры чалавек, дваюрадны брат нябожчыка-мужа, і забраў небараку жыць да сябе ў Паставы. Аднак праблема ў тым, што за тыдзень у вобласці фіксуецца да 30 і болей пажараў і гінуць у агні людзі дзясяткамі.

## Глыбоцкі раён

# Перазімаваць ... на аграсядзібе

■ Чэслаў Якубовіч

**Сапраўднай праблемай для многіх адзінокіх і адзінока пражываючых старых стала праблема перажыць працяглую халодную зіму.**

Невыпадкова таму ў бальніцах Віцебскай вобласці адкрылі 600 дадатковых сацыяльных ложкаў на зімовы час паблізу іх родных мясцін і, магчыма, зберaглі жыцці прэстарэлых. У шэрагу абязлюдзеўшых вёсак ветэраны сталі жыць камунамі, разам у адной з хат і клапаціцца такім чынам пра сябе. А ў Глыбоцкім раёне нарадзіўся яшчэ адзін цікавы вопыт. Тут, як прыцiснулі моцныя маразы, некалькі адзінокіх бабуль гасцінна прыняла вядомая аграсядзіба "Родны кут". Яе гаспадыня Юлія Бука, дарэчы, добра ведае сваіх новых пастаяльцаў, бо працуе сацыяльным работнікам і абслугоўвала іх. Яна і прапанавала пераехаць ім да сябе ў свой утульны дом для гасцей. Гэта памяшканне ўсё роўна прыйшлося б ацяпліваць. А вось у пенсіянерак з'явіліся дзякуючы Юлі дадатковыя бытавыя зручнасці: гарачая вада і душавая кабінка. Акрамя ўсяго іх яшчэ за прымальную плату накормяць, а само памяшканне нагадвае звыклую дамашнюю абстаноўку з простай сялянскай мэбляй і інтэр'ерам. Калі прыйдзе цяпло, старыя жанчыны вернуцца да сябе дамоў, а вось зноў зімаваць, хутчэй усяго, вернуцца сюды, дзе аб іх клапоцяцца. Дарэчы, і ў іншых мясцінах краіны суседзі пры падтрымцы органаў сацыяльнай абароны сталі браць да сябе старых, хто апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі, і такую дапамогу атрымоўваюць ужо больш 90 тысяч чалавек. Дапамагчы ім дажываць свой век маглі б і многія закрытыя пустуючыя школы, але ў нас пакуль актыўна абнаўляюць толькі фермы.

## Пастаўскі раён

# Без тэрміну даўнасці

■ Кастусь Александровіч

**У адрозненне ад усходніх рэгіёнаў крымінагенная абстаноўка на захадзе ў Прыдзвінні заўжды была больш спакойная.**

Вось і ў Пастаўскім раёне летась нават на 13,5 % скарацілася колькасць зарэгістраваных крымінальных злачынстваў і вырасла таксама колькасць паспяхова раскрытых спраў. Дзякуючы намаганням людзей у пагонах было раскрыта адно забойства, даволі рэдкія выпадкі грабяжоў, разбою, нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, а ўсе зламыснікі былі ўстаноўлены і панясуць заслужанае пакаранне за свае ганебныя ўчынкі. Як бы ні думалі злачынцы замесці сляды свайго грэхападзення, але яны адкажуць за гэта. Аператыўнікам удалося ўжо сёлета раскрыць рэзананснае забойства маладой дзяўчыны, якую забілі ў Паставах 10 гадоў назад. Тады гараджан шакіравала, што глыбокай ноччу яе труп быў скінуты ў калодзеж на адной з цэнтральных вуліц горада. Аднак і праз столькі гадоў вёўся пошук злачынцы, якім аказаўся мясцовы хлопец, які на той час служыў кантрактнікам у адной з мясцовых воінскіх часцей. У тую жудасную ноч яму дапамог замесці сляды злачынства дождж, а потым забойца жыў і прадаўжаў ужо за мяжой. Цяпер віна яго даказана, злачынца затрыманы і атрымае па заслугах. Дарэчы, перад гэтым следчым удалося раскрыць тут і двайное забойства 11-гадовай даўніны, а ў цэлым па вобласці з пачатку года раскрыта 5 забойстваў мінулых гадоў.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 21.02.13 | | | | Пятніца 22.02.12 | | | | Субота 23.02.13 | | | | Нядзеля 24.02.11 | | | | Пнд 25.02.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -7 | -4 | -5 | -7 | -6 | -4 | -5 | -5 | -4 | -1 | -6 | -8 | -8 | -3 | -7 | -8 | -7 | -5 |
| Ціск | 753 | 753 | 752 | 753 | 753 | 753 | 752 | 754 | 755 | 755 | 756 | 757 | 758 | 758 | 758 | 760 | 760 | 760 | 759 |
| Вільготнасць | 87 | 88 | 84 | 87 | 90 | 87 | 84 | 92 | 90 | 89 | 78 | 90 | 86 | 88 | 84 | 94 | 92 | 92 | 90 |
| Вецер м/сек | 3 Пн-У | 2 Пн-У | 3 У | 2 Пн-У | 2 Пн-У | 1 У | 2 У | 1 У | 2 У | 3 У | 3 Пд-У | 3 У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 2 Пд-У | 1 Пд-У |

# Аб самым надзёным

## АБ АПТЫМІЗАЦЫІ ЗАТРАТ І ПРАЦЫ МЕДЫКАЎ ПА-НОВАМУ ЗАГАВАРЫЛІ НАВАТ У АЙЧЫННАЙ СІСТЭМЕ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Як ні круці, а мы паступова прыходзім да таго, што ўслед за навучаннем у беларускіх ВНУ за грошы ( амаль 7 з кожных 10 студэнтаў) платнымі становяцца і многія медыцынскія паслугі, як і скарачэнне тэрміну знаходжання пацыентаў у бальніцах. А пакуль парадуемся, што ў Беларусі дастаткова медыцынскіх ложкаў і будзем старацца болей пільна цаніць божы дар – само жыццё, і навучымся самі берагчы ўласнае здароўе.**

Зусім невыпадкова ў нашай краіне сёлета назвалі бягучы 2013 год Годам беражлівасці. Услед за іншымі сферамі дайшла чарга і да людзей у белых халатах і да беларускіх настаўнікаў, якім на вышэйшым узроўні паабяцалі "жалезны спрос", а таксама ўбраць усё лішняе і павысіць ім зарплаты, калі будзе павышана выніковасць адпаведнай працы. Работа па зберажэнні бюджэтных сродкаў ідзе настолькі маштабная, што закранулі і самае святое: будзе паскорана аптымізацыя і наведзены парадак і ў галіне спорту, падрыхтоўкі алімпійскіх геніяў.

Беларускі лідар спачатку наведаў у Мінску сучасны РНПЦ неўралогіі і неўрахірургіі, а потым сустрэўся з міністрам аховы здароўя РБ Васілём Жарко. Адкрытым тэкстам медработнікам было загадана: хопіць плакацца, што яны жабракі, бедныя, такія-сякія. Прэзідэнт аддаў распараджэнне ўрачам даваць вынік. А галоўны пастаўшчык гучных заяў апошніх дзён віцэ-прэм'ер урада Беларусі Анатоль Тозік у сваёй манеры выказаўся на выніковай калегіі Міністэрства аховы здароўя, што нават 30-40 % наведванняў паліклінік з'яўляюцца неабгрунтаванымі.

Як і раней, нашы людзі ва ўсім аказваюцца вінаватымі. Два гады назад вымелі ўсю валюту, каб мець пад задам легкавушкі буржуйнскія, хоць і патрыманыя. Ды і яшчэ сталі хапаць у 2011 годзе , баючыся росту цэн, цукар, алей, спічкі нават і абрушылі айчынную сістэму гандлю, спраўакавалі шалёны рост інфляцыі. Потым нягоднікі будаўнікі сталі кідаць родныя будтрэсты і ехаць за доўгім рублём на чужыя аб'екты за мяжой, за што іх нават паабяцалі пазбавіць той жа бясплатнай медыцыны. І ўвогуле, якія хлопікі суайчыннікі, на іх сумленні многія праблемы нацыянальнай аховы здароўя.

Ну, як стала вядома, не атрымоўваецца ў нас зрабіць якасным медыцынскае абслугоўванне. Сярэднестатыстычны беларус, па афіцыйных дадзеных медстатыстыкі, наведвае паліклініку больш 13 разоў у год. А вось жыхары Еўрасаюза, дзе насельніцтва прымусілі плаціць за сваё здароўе, толькі 5-7 разоў штогод. Віцэ-прэм'ер непакоіўся, што ў медустановах вялікія чэргі, што нейкі сапраўды хворы можа і не атрымаць дапамогі. Невыпадкова той жа А. Тозік яшчэ перад новым годам прапаноўваў за кожны паход да ўрача браць з пацыента па 5 тысяч рублёў, але гэта прапанова не прайшла.

Зараз раскрыў таямніцу ўжо А. Лукашэнка: ва ўрадзе прапанавалі браць з людзей грошы за шэраг працэдур у бальніцах дзённага ўтрымання. І якое дрэннае ў нас насельніцтва, бо п'е і курыць, не клапоціцца аб сваім здароўі і хварэе ў 2 разы болей, чым магло, не выконвае рэкамендацыі ўрачоў аб здаровым ладзе жыцця. Праўда, тут нейк забыліся, як зусім нядаўна нават з экранаў тэлевізараў свяцілася сацыяльная рэклама аб шчаслівых беларусах, у якіх дома заўсёды ёсць "чарка са шкваркай".

Не трэба быць вялікім спецыялістам, каб пераканацца, што ўсе гэтыя размовы і прапановы аб аптымізацыі затрат і папраўках у Закон "Аб ахове здароўя" выкліканы найперш недахопам сродкаў у сістэмах адукацыі і аховы здароўя. За ўтрыманне ў бальніцах, за лячэнне, за навучанне, вядома, з насельніцтва поўнай платы браць не будуць, бо яго даходы мізэрныя. Але хутчэй усяго, частку гэтых расходаў людзей прымусяць болей узяць на сябе. Можа быць і так, што пацыенты, якія трапяць у бальніцу ў нецвярозым стане, а таксама ў выніку ўжывання наркатычных сродкаў, не будуць атрымоўваць за першыя 6 дзён лячэння бюлетэні, а толькі даведку аб вызваленні ад працы па стане здароўя.

Яшчэ наступныя 6 дзён знаходжання ў медстацыянары такому хвораму плануецца аплочваць у палавінным памеры сярэдняга заробку. Аднaчасова ставіцца задача і па павелічэнні экспарту медыцынскіх паслуг, і далейшы рост нараджальнасці, і стварэнне новай мадэлі рацыянальнага расходвання сродкаў на медыцыну пры забеспячэнні якаснага лячэння хворых беларусаў. Пакуль жа толькі на Віцебшчыне за кошт нас з вамі, а таксама замежных пацыентаў летась медустановы дадаткова зарабілі амаль 200 млрд. рублёў.

Як ні круці, а мы паступова прыходзім да таго, што ўслед за навучаннем у беларускіх ВНУ за грошы ( амаль 7 з кожных 10 студэнтаў) платнымі становяцца і многія медыцынскія паслугі, як і скарачэнне тэрміну знаходжання пацыентаў у бальніцах. А пакуль парадуемся, што ў Беларусі дастаткова медыцынскіх ложкаў і будзем старацца болей пільна цаніць божы дар – само жыццё, і навучымся самі берагчы ўласнае здароўе. І яшчэ забываць нельга, што аптымізацыя медыцынскіх паслуг на сумленні беларусаў-пацыентаў.

## Дзень за днём

**Толькі ў канцы лютага адновяцца перамовы з Расіяй па далейшых пастаўках нафты ў Беларусь у 2013 годзе, аднак невядома на якіх умовах. Амаль 2 месяцы ішлі ў РБ 440 млн. USD чарговага транша крэдыта ЕўрАзЭС. Замежныя інвестыцыі ў айчынную эканоміку знізіліся на чвэрць. У тэставым рэжыме пачаліся трансляцыі новага тэлеканала "Беларусь-3" аб культурным жыцці краіны. За грошы беларускай моладзі стала магчымым рэпеціраваць адказы на ЦТ на камп'ютары. Беларускім спартыўным клубам рэкамендавалі не разлічваць болей, што дзяржава будзе іх утрымліваць. Новы чэмпіянат краіны па футболе упершыню пройдзе ў 2 этапы з раздзяленнем каманд вышэйшай лігі на дзве шасцёркі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іран.** Афіцыйны Тэгеран праінфармаваў Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі аб планах установкі яшчэ тысячы больш хуткіх цэнтрыфуг для ўзбагачэння ўрану.

**Сірыя.** Прэзідэнт-дыктатар Б. Асад пацвердзіў, што і не думае здавацца, хоць і галоўны саюзнік Расія лічыць, што ягоныя шанцы выжыць змяншаюцца з кожным днём.

**Ізраіль.** Толькі Расія і Іран жорстка адрэагавалі на авіяўдар ВПС краіны па аўтакалоне арміі Сірыі, у зацяжны сірыйскі ваенны канфлікт уцягваюцца ўсё больш дзяржаў свету.

**КНДР.** Па загадзе Кім Чэн Ына ў напоўгаладнай краіне ўвялі ваеннае становішча, усе войскі прывялі ў баявую гатоўнасць напярэдадні выпрабаванняў ядзернай зброі.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ заявіла, што літоўцы гады праз 2 вызваляцца ад энергетычнага дыктату Расіі, калі ім зараз прадаюць газ на 30 % даражэй, чым Германіі.

**Швейцарыя.** Улады краіны адмянілі банкаўскія тайны, па новым законе будуць перадавацца дадзеныя аб кліентах, якіх за мяжой падазраюць ва ўхіленні ад падаткаў.

**Украіна.** Асуджаны пажыццёва за забойства журналіста былы генерал МУС Украіны А. Пукач заявіў, што з ім павінен сядзець былы прэзідэнт Кучма і яго памагаты Літвін.

**Галандыя.** Упершыню за 100 гадоў на каралеўскі трон сядзе мужчына, прынц Аранскі пасля адрачэння ад пасады ва ўзросце 75 гадоў яго маці – каралевы Беатрыкс.

**Расія.** Камуністы сабралі і перадалі ў адміністрацыю прэзідэнта РФ 50 тысяч подпісаў з просьбамі перайменаваць Валгаград у Сталінград ( да 1925 года звався Царыцын).

**Грузія.** Адзін з лідараў правячай партыі Леван Бердзеленеішвілі параіў кіраўніку РБ А. Лукашэнку не прыязджаць сюды ў адказ на яго прапановы грузінам вярнуцца ў СНД.

**Аўстрыя.** Дом у горадзе Браўнаў-на-Іне, дзе ў 1889 годзе нарадзіўся галоўны нацыст Адольф Гітлер, вырашылі перадаць пад цэнтр навучання імігрантаў, курсы моў для іх.

**Казахстан.** Паблізу Алма-Аты разбіўся пасажырскі самалёт бізнес-класа, загінуў 21 чалавек на борце, раней у падобнай авіякатастрофе загінула шэраг ваенных чыноў.

**Кыргыстан.** Улады павысілі да 10 гадоў тэрміны турэмнага зняволення за выкраданне нявест і прымушэнне ( іх адбываецца да 16 тысяч выпадкаў штогод) жанчын да ўступлення ў шлюб.

**Кітай.** У выніку выбуху грузавіка з піратэхнікай у цэнтральнай правінцыі Хэнань загінулі 26 чалавек, часткова абрушыўся мост з некалькімі аўтамабілямі, было шмат параненых.

**Японія.** Па выніках 2012 года кампанія Toyota зноў стала буйнейшай у свеце па выпуску аўтамабіляў, прадала іх 9,750 мільёнаў штук і абагнала былога лідара General Motors са Злучаных Штатаў Амерыкі.

## Беларусь не плануе вяртацца на сезонны час. Але калі Расія прыме рашэнне...



■ Алесь Сьнег

**Беларусь не плануе вяртацца да пераводу стрэлак гадзіннікаў на сезонны час. Аб гэтым паведаміў намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі Сяргей Іўлеў.**

У Беларусі захоўваецца прынятае ў 2011 годзе рашэнне пра адмену штогадовага пераводу гадзіннікавай стрэлкі ў апошнюю нядзелю сакавіка на адну гадзіну наперад і ў апошнюю нядзелю кастрычніка на адну гадзіну назад. Рашэнне пра адмену пераводу было прынята для таго, каб праводзіць падлік часу ўзгоднена з дзяржавамі — удзельніцамі Мытнага саюза. «Такім чынам, мы захоўваем тое, што было, і ў нас узнікае натуральны пераход часу з суседняй расійскай вобласцю — адна гадзіна, — адзначыў Сяргей Іўлеў. — У краінах Мытнага саюза час цяпер таксама не пераводзіцца», — гаворыць Іўлеў.

Калі Расія прыме рашэнне зноў аб пераводзе стрэлак, то Беларусь будзе разглядаць гэтае пытанне. «Калі будзе мяняцца сітуацыя, мы будзем разглядаць гэтае пытанне асобна і будзем прымаць адпаведныя рашэнні», — удакладніў суразмоўца.Цяпер з Кіевам і Вільняй у Мінска складае адну гадзіну, а з Варшавай — дзве гадзіны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Колькасць насельніцтва сталіцы перавысіла 1,9 мільёна чалавек, летась нарадзілася яшчэ 4,9 тысячы малых мінчан і пераехалі сюды амаль 11 тысяч іншагародных грамадзян.

**Астравец.** Расійская кампанія "Сілавыя машыны" для будучай АЭС вырабіць і паставіць па кантракце коштам больш 750 мільёнаў долараў дзве свае новыя паравыя турбіны на хуткім ходзе.

**Барысаў.** У продажы з'явіліся па цане 12,9 тысяч долараў сабраныя тут кітайска-беларускія аўтамабілі седан сярэдняга класу Geely, іх разлічваюць прадаваць у РФ і Казахстане.

**Івацэвічы.** Адзін са старых будынкаў цэха ААТ "Івацэвічдрэў", які надаўна наведваў А. Лукашэнка, згарэў пад раніцу з-за пажару разам з абсталяваннем, людзі не пацярпелі.

**Маладзечна.** Вечарам раней судзімы 18-гадовы хлопец разам з 15-гадовым сябрам з Асіповіч збілі на вуліцы двух прахожых мужчын і забралі ў іх прадукты харчавання.

**Мінск.** Ад сардэчнага прыступу памёр 49-гадовы мінчанін, калі не пусціў у сваю кватэру старэйшага брата-алкаголіка, а той павесіўся ў пад'ездзе з адчаю, восенню пахавалі маці.

**Брэст.** Ноччу на пагранпераходзе "Брузгі" ў жыхара Гродна знайшлі і канфіскавалі разам з аўто партыю 21 кантрабанднага смартфона Apple iPhone 4s коштам 118 мільёнаў рублёў.

**Магілёў.** Супраць звольненага са спецпадраздзялення АМАПа сержанта міліцыі завялі крымінальную справу за вымагальніцтва 2 мільёнаў рублёў у мясцовага жыхара.

**Пружаны.** Днём пажарны апавяшчальнік разбудзіў у вёсцы Чапелі 13-гадовага хлопца, які выратаваўся сам і выратаваў ад гібелі п'янага бацьку – віноўніка пажару ў хаце.

**Мінск.** Журналісты недзяржаўнага тэлеканала "Белсат" перадалі старшыні дзяржаўнай Белтэлерадыёкампаніі Г. Давыдзьку сваю "талерку", каб ён ведаў пра іх праграмы.

**Крупкі.** Па дарозе дамоў з заняткаў у сельскай школе 15-гадовы хлопец стрэліў з пнеўматычнага пісталета і трапіў у вока 13-гадоваму таварышу, стралка затрымалі.

**Лунінец.** Разам з запрэжаным у сані канём праваліўся пад лёд ракі Прыпяць 59-гадовы мужчына, з палонкі выбраўся днём самастойна, а жывёлу дасталі выратавальнікі МНС.

**Мінск.** Амаль суткі ля кінатэатра "Беларусь" у цэнтры сталіцы правісеў вялікі бігборд з надпісам чорнымі літарамі "Гэта стабільнасць падобная на смерць", пакуль яго нехта не зняў.

**Мядзел.** З натуральнага каменя і бронзы паўстане ў райцэнтры помнік вышынёй 2,8 метра, выбраны Мінкультуры РБ, славутаму земляку, народнаму паэту Беларусі Максіму Танку.

**Мінск.** Пасля перапынку зборная БДУ ў нядзелю 17 лютага згуляла ў 1/8 фіналу Клуба вясёлых і знаходлівых, мінчане двойчы ў 1999 і 2001 гадах станавіліся чэмпіёнамі КВЗ.

## По прыкладзе Браслава школьныя і сельскія публічныя бібліятэкі ў 11 пунктах Віцебскай вобласці будуць аб'яднаны

■ БелТА

Школьныя і сельскія публічныя бібліятэкі будуць аб'яднаны ў 11 населеных пунктах Віцебскай вобласці ў 2013 годзе, паведаміла сёння начальнік упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама Ларыса Аленскі на галіновай калегіі, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

Эксперымент па аб'яднанні праводзіўся ў 2012 годзе ў Браслаўскім раёне і паказаў сваю эфектыўнасць. Зараз у раёне паспяхова функцыянуюць дзве інтэграваныя бібліятэкі. Вопыт браслаўчан вырашана ў гэтым годзе распаўсюдзіць у 8 раёнах, дзе ў 11 населеных пунктах з'явяцца інтэграваныя бібліятэкі.

У Віцебскай вобласці налічваецца больш 630 бібліятэк, аб'яднаных у 25 цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм. Карыстальнікамі бібліятэк з'яўляюцца больш за 581 тыс. чалавек, або 48% насельніцтва вобласці. За 2012 колькасць чытачоў узрасла на 32 тыс. чалавек, а бібліятэчныя фонды папоўніліся больш чым 500 тыс. адзінак захоўвання. Агульны фонд бібліятэк вобласці налічвае 8,5 млн. друкаваных і электронных выданняў. Кожная трэцяя бібліятэка Віцебскай вобласці прадастаўляе сваім чытачам магчымасць выхаду ў Інтэрнэт.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Будучы ў горадзе міністр прамысловасці РБ Д. Кацярыніч пацвердзіў, што на паспяховую мадэрнізацыю ў Беларусі няма грошай, усё звядзецца да кампанейшчыны.

**Наваполацк.** Дзяржкаммаёмасць РБ прапанаваў выставіць на продаж частку дзяржпакета акцый "Нафтана" і "Беларуськалія", бо дзяржаве патрэбна валюта, а інвестыцыі не ідуць.

**Полацк.** Кампанія з Расіі на аб'екце будучай ГЭС пабудавала абвадны канал і катлаван пад станцыю, дарогу да іх, пачала пастаўкі абсталявання, запуск ГЭС намечаны на 2015 год.

**Віцебск.** Дамоў вярнуўся з "рабства" на цагельным заводзе ў Дагестане У. Арэшчанка, дзе ён страціў 17 кг вагі ад недаядання, але заявіў, што зноў вернецца ў Расію на заробкі.

**Орша.** У выніку пажару ў вёсцы Чырвоны Бераг загінула днём сям'я з 4-х чалавек, у іх – дачка-інвалід і сын 2 гады, а дарослыя любілі выпіць.

**Верхнядзвінск.** Услед за коннымі нарадамі на пагранзаставе "Савейкі" ў пагранічнікаў з'явіўся сучасны снегаход для аховы беларуска-латвійскага ўчастка дзяржаўнай граніцы.

**Глыбокае.** На мясцовым хлебазаводзе ўпершыню пачалі выпускаць рулеты з начынкай з халвы, наразныя піражныя "Казачныя", два новыя гатункі тортаў, усяго відаў 60 прысмакаў.

**Наваполацк.** Будаўнічамантажны трэст № 16 завяршыў у горадзе ўзвядзенне першага дома з мадэрнізаваных энергаэфектыўных панеляў, будаўніцтва другога такога дома пачалося ў Полацку.

**Лёзна.** Сельгасфіліял Беларускай чыгункі "Выдрэя" аформіў дакументы на адвод 4,5 гектараў зямлі пад будаўніцтва новай фермы па вырошчванні авечак на 2,5 тысячы галоў.

**Сураж.** Раніцай ля пасёлка Віцьба на дарозе на Віцебск вадзіцеля VW Golf занесла пад колы грузавіка, яго разам з дачкой і жонкай дасталі з машыны выратавальнікі МНС і даставілі ў бальніцу.

**Новалукомль.** Суд пакараў жыхара горада штрафам амаль на 6 мільёнаў рублёў за паўторную на працягу года лоўлю рыбы сеткамі, хоць у гэты раз яго ўлоў быў невялікі ( выцягнуў з мясцовага возера толькі 4 плоткі).

**Шаркаўшчына.** Пасля адкрыцця новай райбальніцы за няпоўных 3 месяцы ў яе сучасным радзільным аддзяленні ўжо з'явілася 19 немаўлят, раней за год нараджалася не больш 70.

**Сянно.** Абласны суд прызнаў, што 62-гадовы жыхар вёскі Рулеўшчына, які забіў летась дзяўчыну, пакутуе псіхічным захворваннем і яго неабходна прымусова лячыць.

**Паставы.** Другі па ліку выхаванец мясцовай акадэміі футбола ПМЦ цэнтрфорвард Кірыл Сідарэнка прадоўжыць прафесійную кар'еру ў клубе расійскай суперлігі "Амкар" (Перм).

**Віцебск.** Шматпакутнаму ФК "Віцебск" зацвердзілі ціплы гадавы бюджэт на 2013 год, які не дазваляе камандзе паспяхова гуляць у 1-й лізе чэмпіянату Беларусі па футболе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Дзень лыжніка ў Глыбокім



“Касяк рыбакоў” разам з суддзёй спаборніцтваў В. Горлавым (у цэнтры).

■ Яўген Самсонаў

**У дзень св. Валянціна ў ваколіцах возера Белае, паблізу Глыбокага, праходзіла зімовае свята Дзень лыжніка.**

18 каманд працоўных калектываў начале з сваімі кіраўнікамі змагаліся за ўзнагароды ў пяці намінацыях.

У самай галоўнай намінацыі – лыжнай эстафеце – пераможцам стала дружная каманда мясакамбіната ў складзе: Алёны Сяргеевай, Марыны Куц, Алега Жалткевіча і Алега Мароза. Другое месца заняла каманда райвыканкама, а на трэцім месцы – ГЭС.

Андрэй Пахілка (мясакамбінат) стаў пераможцам у гіравым спорце. Другое месца – Андрэй Сырапятка («Ахова»), трэцяе месца заваяваў прадстаўнік дзяржпрафліцэя Сяргей Атрахімёнак.

У падлёдным лове рыбы першае месца дасталося Яўгену Самсонаву (ЖКГ), другое – Зміцеру Шылёнку («Ахова») і Раман Ермаковіч (ЦРБ) заваяваў трэцяе месца.

Вызначылася тройка мацнейшых па армрэслінгу: 1 – Андрэй Пахілка (мясакамбінат), 2 – Аляксандр Ліша (аддзел адукацыі), 3 – Андрэй Баркоўскі («Ахова»).

У конкурсе снегавых і ледзяных фігур “Зімовая казка” перамагла каманда “РАЙПО”.



Урачыстае адкрыццё Дня лыжніка.



Фінал спаборніцтваў па армрэслінгу, Андрэй Пахілка (злева) і Аляксандр Ліша.



# Усе картынгісты Беларусі – у Мосар!

**На вуліцы – далёка не лета і ў Мосары сёння няма экскурсійнага тлуму. Аднак дзень 17 лютага стаўся выключэннем. У Мосар з’ехаліся картынгісты з усёй Беларусі.**

Зімовыя спаборніцтвы картынгістаў у Мосары ўжо становяцца традыцыйнымі і штогадовымі. Арганізатары ж спаборніцтваў завяраюць, што яны гатовыя яшчэ й надалей, неаднойчы, у наступныя гады, прыняць новыя спаборніцтвы. Усё гэта сталася магчымым дзякуючы таму, што ў гэтым паселішчы жывуць сапраўдныя энтузіясты: Андрэй Вацлававіч Якімовіч, вадзіцель «дальнабойшчык», арганізатар спаборніцтваў і Валянцін Тадэвушавіч Мурзіч, які аддаў сваё бульбяное поле пад трасу для спаборніцтва картынгістаў. Абое і прынялі чынны ўдзел ва ўладкаванні трасы: ссоўвалі снег, раўнялі, гладзілі сваёй тэхнікай.

Гэтым годам гледачоў сабралася яшчэ болей, чым у мінулым годзе і было іх цяпер блізу чалавек 300. Мясцовыя прадпрымальнікі арганізавалі продаж кавы, гарбаты і хот-догаў.

Геаграфія ўдзельнікаў – шырокая.

**Група “Н-160”:**

Ганчарык Данііл (Мінск) – 1 месца,
Яфіменка Сяргей (Полацк) – 2 месца,
Яцкевіч Мікіта (Полацк) – 3 месца,
Рагозны Вадзім (Наваполацк)– 4 месца,
Паддубны Аляксандр (Наваполацк) – 5 месца,
Турок Кацярына (Мінск) – 6 месца.

**Група “Н-270”:**

Квіткевіч Артур (Мінск) – 1 месца,
Якімовіч Аляксей (Мосар) – 2 месца,
Ганчарык Данііл (Мінск) – 3 месца,
Казак Георгій (Глыбокае) – 4 месца,
Мацеша Іван (Лепель) – 5 месца,
Пашкевіч Аляксандр (Лепель) – 6 месца,
Апенчанка Ціхан (Полацк) – 7 месца,
Мішута Дзмітрый (Полацк) – 8 месца,
Якубёнак Вадзім (Глыбокае) – 9 месца,
Баранаў Дзяніс (Полацк) – 10 месца.

**Клас “Е”:**

Квіткевіч Паліна (Мінск) – 1 месца,
Ермакоў Аляксандр (Віцебск) – 2 месца,
Яфіменка Уладзімір (Полацк) – 3 месца,
Гаранькоў Віталь (Віцебск) – 4 месца,
Якімовіч Аляксей (Мосар) – 5 месца.

Як бачым, нароўні з хлопцамі змагаліся за першынство і дзяўчаты. І не проста змагаліся нароўні, але й перамагалі, як Квіткевіч Паліна (Мінск). Турок Кацярына атрымала прыз «За волю да перамогі».

Арганізатары спаборніцтваў парупіліся зрабіць не толькі свята для пілотаў-картынгістаў, але й для гледачоў і балельшчыкаў. Напрыканцы спаборніцтваў былі паказальныя заезды квадрацыклістаў і матацыклістаў на матацыклах з каляскамі.

Квадрацыкл – тэхніка сур’ёзная, пазадарожнік, яму не месца на шашы, на ім няма нават нумарнога знака, як тое ёсць на звычайным матацыкле. Гэты транспарт сродак выклікаў усеагульную цікавасць, як дарослых, так і дзяцей, і побач з 6 квадрацыкламі сабралася вялікая «тусоўка» цікаўных, многія выказалі жаданне пакатацца па снежным бездарожжы.

Агулам кажучы, спаборніцтвы картынгістаў у Мосары і дадатковая праграма з паказальнымі заездамі рознай тэхнікі, выклікалі ў аўтара гэтых радкоў дадатныя эмоцыі.

Мосар знайшоў сваё годнае месца ў геаграфіі спаборніцтваў картынгістаў на Беларусі. Тое, што ў Мосар прыязджаюць пілоты-картынгісты з Мінска і розных гарадоў нашай вобласці, кажа ўжо аб папулярнасці іх правядзення ў гэтым месцы. Галоўнае, у Мосары ёсць такія руплівцы як Андрэй Вацлававіч Якімовіч, і Валянцін Тадэвушавіч Мурзіч. А Аляксей Якімовіч, сын арганізатара, паказвае добрыя вынікі на трасе.



Узнагароджанне пераможцаў у групе «Н-160». Крайні справа – Яцкевіч Мікіта – 3-е месца, крайні злева – Яфіменка Сяргей – 2-е месца, узнагароджваецца медалём Ганчарык Данііл (Мінск) – 1 месца.



За волю да перамогі! Злева – Турок Кацярына (Мінск).

# У рэгіёнах Беларусі будуць створаны лагеры працы і адпачынку для падлеткаў ад 15 гадоў

**Ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, акрамя пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС, будуць створаны лагеры працы і адпачынку для падлеткаў ад 15 гадоў. Аб гэтым паведаміў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва Мікалай Мазур 18 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, аднаўленне ў Беларусі работы лагераў працы і адпачынку, падобных да тых, што існавалі ў СССР, прадугледжана пастановай урада № 43 ад 18 студзеня. Цяпер Міністэрства адукацыі распрацоўвае нарматыўную базу для работы такіх лагераў.

Як сказаў Мазур, у лагерах працы і адпачынку падлеткі будуць працаваць некалькі гадзін у дзень, а таксама адпачываць.

«Дзеці самі павінны зарабляць для сябе, каб менш выхоўваць у іх спажывальніцкае стаўленне», — лічыць прадстаўнік цэнтра па аздараўленні. Паводле яго слоў, на вёсцы дзеці часта дапамагаюць па гаспадарцы, пры зборы ўраджаю і г.д. «У гарадах мы выхоўваем гультаёў. Пастаўлена задача, каб на вуліцах не было бадзяжных падлеткаў», — сказаў Мазур.

Мяркуецца, што з часам датацый на пуцёўку ў такі лагер не запатрабуецца, бо падлеткі змогуць самі сябе забяспечыць.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*



Вячаслаў Ульянавіч Бука – дома з узнагародамі.

## Наш зямляк, прафесар

# Вячаслаў Бука

## атрымаў вышэйшую навуковую ўзнагароду Ісламскай Рэспублікі Іран



Дыплом, які ўручаны Вячаславу Буку, з подпісам прэзідэнта Ірана Махмуда Ахмадзінежада.



Кубак лаўрэата.

■ **Ул. Скрабатун**

**Добрая навіна прыйшла ў «Вольнае Глыбокае»! Вячаслаў Ульянавіч Бука, наш зямляк (нар. у в. Маркі каля Шаркоўшчыны), загадчык аддзела біяхімічнай фармакалогіі Інстытута біяхіміі біялагічна актыўных злучэнняў НАН Беларусі (г. Гродна), прафесар, доктар біялагічных навук, лаўрэат прэміі НАН Беларусі, атрымаў вышэйшую навуковую ўзнагароду Ісламскай Рэспублікі Іран – прэміію Аль-Харэзмі.**

У аддзеле біяхімічнай фармакалогіі, якім кіруе В.У. Бука, на працягу больш сарака гадоў вядуцца работы па вывучэнні малекулярных механізмаў захворванняў печані, якія звязаныя з парушэннямі харчавання і таксічнымі ўздзеяннямі (алкаголь, гепатаканцарагены і інш.), а таксама паталогіі, прама ці ўскосна абумоўленай парушэннямі функцыі печані (атэрасклероз, метабалічны сіндром, дыябет, атлусценне). Праводзіцца распрацоўка новых кірункаў фармакалагічнага лячэння гэтых захворванняў, стварэнне новых лекавых сродкаў. Так, у аптэчную сетку Рэспублікі Беларусь ужо паступае новы лекавы прэпарат для лячэння паталогіі печані «Біянасілім», праўзыходны па лячэбным дзеянні замежныя аналагі. Праводзіцца распрацоўка новых прэпаратаў для прафілактыкі і лячэння стэатагепатытаў і фіброзу печані. Навуковыя працы В.У.Букі шырока вядомыя за мяжой, публікуюцца ў прэстыжных міжнародных і еўрапейскіх часопісах. Аддзел біяхімічнай фармакалогіі супрацоўнічае з універсітэтамі Нямеччыны, Італіі, Швецыі, Польшчы, а таксама з шэрагам замежных фармацэўтычных фірмаў. В.У. Бука з'яўляецца чальцом шэрагу міжнародных навуковых таварыстваў, удзельнікам і арганізатарам еўрапейскіх канферэнцый і сімпозіумаў.

**Аль-Харэзмі** – сярэднявечны персідскі астраном і матэматык, заснавальнік навукі алгебры. Гэтая прэмія прысуджваецца штогод на працягу 26 гадоў іранскім вучоным, а таксама 4-5 замежным навукоўцам. В.У.Бука быў другім прадстаўніком СНД, які атрымаў гэтую прэмію.

Акрамя таго, В.У. Бука быў узнагароджаны граматай Іранскай арганізацыі па навуцы і тэхналогіях (IROST). Падчас візіту ў Іран ён сустракаўся з іранскімі высокімі афіцыйнымі асобамі і навукоўцамі, азнаёміўся з працай шэрагу навуковых устаноў. Як запэўніў міністр навукі, даследаванняў і тэхналогій Ірана Камран Данешжу ў гутарцы з В.У. Букам, іранскія навукоўцы хацелі б больш цесна супрацоўнічаць з беларускімі калегамі, у тым ліку і ў вобласці біямедыцынскіх навук.

– Звычайна прэмію, а гэта дыплом і кубак, уручае асабіста прэзідэнт рэспублікі,– кажа прафесар В.У. Бука. – Для мяне было вялікай нечаканасцю інфармацыя аб тым, што я стаў лаўрэатам прэміі Аль-Харэзмі. Я не палітык, а вучоны, і для мяне вялікі гонар такая высокая адзнака маёй навуковай дзейнасці, незалежна ад таго, хто яе прысудзіў: Амерыка ці Кітай, Ізраіль ці Іран. Прэмія гэта прысуджаецца не толькі ў галіне біялагічных і медыцынскіх навук, якія я прадстаўляю, а ўвогуле ўсіх навук: фізікі і матэматыкі, хіміі і аграноміі…

– Гэтую прэмію ў Тэгеране,– кажа далей Вячаслаў Бука,– мне ўручыў 5 лютага першы віцэ-прэзідэнт Ірана Махамад-Рэза Хатамі, бо прэзідэнт у гэты дзень ад`ехаў у Егіпет па сваіх прэзідэнцкіх справах. З замежных вучоных, прэмію атрымалі прадстаўнікі Індыі, Пакістану, Іярданіі ды Малайзіі. Былі таксама ўзнагароджаныя навукоўцы з Германіі і Вялікабрытаніі, але яны на цырымонію не прыехалі. Узнагароджанне праходзіла ў прысутнасці міністраў урада, прадстаўнікоў дыпламатычнага корпуса і мноства навукоўцаў. На вялікі жаль, сярод дыпламатаў краін, з якіх паходзілі лаўрэаты, не было толькі прадстаўнікоў нашай Беларусі. Пасля ўзнагароджання былі сустрэчы з вышэйшымі асобамі краіны каля стэнда аб працы маёй лабараторыі, які я прывёз з сабой, а таксама з іранскімі навукоўцамі. Я прачытаў дзве лекцыі ў навуковых установах Ірана, правёў семінар у цэнтры біятэхналогіі.

**Алкаголю ў краіне ўвогуле няма, і яго ўвоз строга забаронены.**

– Паездка была надзвычай цікавая,– працягвае далей Вячаслаў Бука,– і, як мне здаецца, мае ўражанні сур`ёзна адрозніваліся ад чакаемых. Навука там на вельмі добрым узроўні, дастаткова фінансуецца дзяржавай. Тэгеран горад спакойны, калі не лічыць вар`яцкі дарожны рух без усялякіх правілаў. Кажуць, што крыміналу практычна няма. Людзі надзвычай дружалюбныя, гатовыя не толькі падказаць, але і адвесці куды трэба. Многія добра разумеюць англійскую мову, а надпісы на вуліцах практычна ўсюды дублюруюцца па-англійску. У горадзе шыкоўнае метро, праўда, вагоны для мужчын і жанчын асобныя. Усе кабеты мусяць хадзіць з пакрытымі галовамі, нават еўрапейкі. Алкаголю ўвогуле ў краіне няма, і яго ўвоз строга забаронены.

У сваю чаргу «Вольнае Глыбокае» ад імя нашых чытачоў віншуе шаноўнага прафесара і земляка з высокай узнагародай і жадае далейшых поспехаў.



Прафесар Вячаслаў Бука размаўляе з міністрам абароны Ірана.



Прафесар Вячаслаў Бука сярод лаўрэатаў перад узнагароджаннем.

# Прыязджайце, накормім, доўга будзеце памятаць!

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Люты – апошні месяц зімы, месяц рыбалоўнага глухазім'я. Рыбаловы - аматары ў надзеі пацешыць сябе добрым уловам актыўна абследуюць вадаёмы ў пошуках рыбы, але не заўсёды вынікова.**

Рыба, як бы заснула ў чаканні вясны, гэтаму спрыяе павелічэнне таўшчыні лёду і мінулыя багатыя снегапады, якія прывялі да рэзкага скарачэння доступу кіслароду ў вадаёмы і на асобных дробных азёрах назіраюцца перадзаморныя з'явы. Шматлікія грамадзяне, карыстаючыся бездапаможнасцю водных насельнікаў, замест таго, каб аказаць дапамогу рыбе, нарэзаць лунак у лёдзе і павялічыць паступленні кіслароду, выкарыстоўваюць розныя забароненыя і дазволеныя прылады рыбалоўства, імкнуцца налавіць рыбкі ў «каламутнай» вадзе, лічачы, што пры заморы рыбы можна парушаць правілы рыбалоўства. Глыбоцкая міжрайінспекцыя папярэджвае такіх «рыбаловаў», што за парушэнне правіл рыбалоўства грамадзяне будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці. Чуткі пра заморы рыбы распаўсюджваюцца з хуткасцю святла, і ўжо жыхары Падсвілля, Глыбокага гатовыя паехаць за 50-70 км., каб налавіць рыбы, якая гіне, гэта нібы баль падчас чумы, чым горш прыродзе, тым лепш нам, бо мы – самыя галодныя. Так і хочацца адказаць такім «рыбакам» – прыязджайце, накормім, доўга будзеце памятаць. Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі пераканаўча просяць грамадзян аказаць пасільную дапамогу ў выратаванні рыбы на вадаёмах, пры з'яўленні першых заморных з'яў неабходна павялічыць колькасць паступаючага ў ваду кіслароду, абсталёўваць майны, лункі, расчысціць снежны полаг на лёдзе і тады вы ўсё цэлы год будзеце лавіць рыбу і атрымліваць задавальненне.

У лютым-сакавіку штогод арганізацыі і прадпрыемствы раёна арганізоўваюць спаборніцтвы па спартыўным рыбалоўстве ў сваіх калектывах.

Хацелася б нагадаць кіраўнікам арганізацый і прадпрыемстваў раёна пра правілы правядзення такіх спаборніцтваў. Паводле п. 134 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства пры правядзенні спаборніцтваў па спартовым рыбалоўстве абмежаванне па колькасці вылаўленай рыбы не ўсталёўваюцца, калі гэта прадугледжана ўмовамі спаборніцтваў.

Пры правядзенні спаборніцтваў па спартыўным рыбалоўстве ў арандаваных рыбалоўных угоддзях ці ў рыбалоўных угоддзях фонду запасу, арганізатарамі спаборніцтваў узгадняюцца з арандатарамі (карыстальнікамі) рыбалоўных угоддзяў ці з адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, а таксама з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Арганізатары спаборніцтваў за 10 дзён да пачатку спаборніцтваў павінны апавясціць адпаведнае структурнае падраздзяленне Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (міжрайінспекцыя) пра арганізацыю спаборніцтваў па спартыўным рыбалоўстве, пра час і месцы іх правядзення. За парушэнне ўсталяваных правіл рыбалоўства арганізатары спаборніцтваў могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ад 100 да 500 базавых велічынь.



# Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху

*22 лютага 2013 г*

■ **Машаракін А.Н.,**
*ст. лейтэнант міліцыі, часовы выканаўца пасады старэйшага інспектара ДПС ДАІ Глыбоцкага РАУС.*

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху! Даводзім да Вашага ведама інфармацыю пра тое, што 22 лютага 2013 года на тэрыторыі Рэспублікі праводзіцца Адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Пакідаеш месца дарожна-транспартнага здарэння – здзяйсняеш злачынства». Мэта правядзення Адзінага дня – прафілактыка здарэнняў, удзельнікі якіх пакідаюць месца ДТЗ.**

Дарожна-транспартнае здарэнне – гэта здарэнне, здзейсненае з удзелам хоць бы аднэй асобы, якая знаходзілася ў руху механічнага транспартнага сродку, у выніку якога прычынена шкода жыццю ці здароўю фізічнай асобы, яго маёмасці або маёмасці юрыдычнай асобы.

Захаванне жыцця людзей на дарогах – задача дзяржаўнай важнасці, рашэнне якой магчымае толькі пры ўзаемадзеянні ўсяго грамадства. Не магчыма застаца абыякавым да шматлікіх трагедый, у выніку якіх гінуць грамадзяне.

Аднак часцяком мы сутыкаемся з выпадкамі праявы нялюдскасці, а менавіта пакіданнем кіроўцамі месца здзяйснення дарожна-транспартных здарэнняў, удзельнікамі якіх яны з'яўляюцца. Хтосьці з пачуцця страху, хтосьці наўмысна пакідае ў небяспецы чалавека, якому неабходна аказаць першую медыцынскую дапамогу, выклікаць «хуткую» і выратаваць яго жыццё. Галоўным чынам ахвярамі такіх здарэнняў з'яўляюцца пешаходы і веласіпедысты.

У 2012 годзе ў вобласці здзейснена 46 дарожна-транспартных здарэнняў, з месцаў здзяйснення якіх кіроўцы схаваліся, 43 з іх знойдзены.

Паводле Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, асоба, якая пакінула месца здзяйснення дарожна-транспартнага здарэння, можа быць прыцягнутая да крымінальнай адказнасці не толькі па артыкуле 317 КК РБ, за ДТЗ, якое пацягнула смерць чалавека або прычыненне яму цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці, але і па арт. 159 КК Рэспублікі Беларусь «Пакіданне ў небяспецы».

Заклікаем кіроўцаў да праявы людскасці, разважлівасці. Пры здзяйсненні ДТЗ, абавязкова спыніцца, аказаць першую даўрачэбную дапамогу пацярпеламу, выклікаць хуткую дапамогу і міліцыю, прыняць меры да захавання слядоў здарэння.

Як паказвае статыстыка, 98 % такіх здарэнняў раскрываецца і асобы, якія пакінулі месца здзяйснення ДТЗ, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

# «Ахова птушак Бацькаўшчыны» настойвае на правядзенні дэталёвай экспертызы масавай гібелі качак у Віцебску

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) настойвае на правядзенні дэталёвай экспертызы масавай гібелі качак у Віцебску.**

Як заявіў БелаПАН дырэктар АПБ Віктар Фянчук, прычынай гібелі качак не можа быць няправільнае кармленне, калі толькі птушак не спрабавалі спецыяльна атруціць. Па ўсёй Беларусі людзі падкормліваюць качак хлебам, і, хоць гэта і няправільна, масавай гібелі птушак не адбываецца, адзначыў спецыяліст.

Паводле яго меркавання, прычынай гібелі качак можа быць як мэтанакіраванае атручванне, так і нейкія іншыя фактары, напрыклад скідванне ў ваду атрутных рэчываў, або рэчываў, што забруджваюць ваду, або нешта іншае.

Паводле яго слоў, дэталёвая экспертыза дазволіць устанавіць дакладную прычыну гібелі качак і прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

Нагадаем, больш за тры дзясяткі загінулых качак убачылі жыхары Віцебска пад пешаходным мостам у вусці Віцьбы 11 лютага. Начальнік Віцебскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Валерый Фандо заявіў БелаПАН, што качкі сталі ахвярай экалагічнай неадукаванасці людзей. «Устаноўлена, што птушкі загінулі ад таго, што гараджане кармілі іх хлебам, сухарамі і таму падобным. А рабіць гэта катэгарычна нельга! Страўнік у птушак ад такой ежы набракае, і гэта прыводзіць да смяротнага зыходу», — сказаў ён.

***Анастасія Янушэўская, БелаПАН.***

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 25 лютага

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Киноповесть **«Кадет»**
**12.15** Док.фильм «Армия народа» (Беларусь).
**12.45** Вокруг планеты.
**13.35** Eurovision. Итоги недели.
**13.55** Журналистское расследование.
**14.25** Тайны следствия.
**15.10, 18.40** Новости региона.
**15.25** Приключенч.фильм **«Зеленый фургон»** (СССР). 1-я и 2-я сер.
**17.45** Док.сериал «Мистические истории» (Украина).
**19.20** «Триумф. Героям спорта «. Дневник.
**19.35, 00.30** Зона Х.
**19.55 «Джамайка»**
**21.00** Панорама.
**21.40** Форум.
**22.40** Народная комедия **«Сваты-3»** (Украина).
**01.00** День спорта.
**01.15** Фантастический сериал **«Звездные врата. Первый отряд»** (США-Канада).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** ОНТ представляет: «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Светлана Ходченкова, Елизавета Боярская, Ирина Пегова, Данила Козловский в фильме **«Пять невест»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!» с Геннадием Малаховым.
**14.10** «Модный приговор».
**15.10 «Обручальное кольцо»**.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Ты не один».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Операция «Березино». Западня для Скорцени». Фильм 2-й.
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: «Открытый формат».
**22.10** «Оскар-2013». Передача из Лос-Анджелеса.
**00.30 «До смерти красива»**. Многосерийный фильм.
**01.20-01.50** Ночные новости.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Док.сериал «Самобытные культуры» (Чехия-Великобритания). 1 серия.
**11.20 «Рыцари неба»**
**13.20** Под грифом «Известные».
**13.55** Тело человека.
**14.30** Комедийный сериал **«Деффчонки»**
**15.35** Детектив **«Журов»**
**16.45** Белорусское времечко.
**17.55** Детективный сериал **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**18.55** Трагикомедия **«Небеса обетованные»**
**21.25** КЕНО.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** Детектив **«Журов»**
**22.40** Комедийный сериал **«Деффчонки»**
**23.35** Овертайм.
**00.05** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**01.00** Документальный сериал «Самобытные культуры» (Чехия-Великобритания). 1 серия.

### СТВ REN TV

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**09.00** «Неделя».
**10.10** «Представьте себе».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Под защитой».
**11.10** «Званый ужин».
**12.05** «Семейные драмы».
**13.00** «Репортерские истории».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Смотреть всем!».
**14.50** СТВ представляет: «ХОРоШОУ». Специальный выпуск ко Дню защитников Отечества.
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщин»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Джеймс Марсден, Джованни Рибизи, Брэд Ренфро и Пайпер Перабо в фильме **«ПЕРЕСЕЧЕНИЕ 10-Й И ВУЛЬФ»**. США, 2006 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.45** «Адская кухня - 2».



### БЕЛСАТ tv

**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**7:55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**8:20** Дакументальная гадзіна: «Дзеці рэвалюцыі»
**9:20** Два на два
**9:45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»)
**10:15** Форум (ток-шоу)
**10:55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: **«Псеўданім Пух»**
**11:45** Фільматэка майстроў: **«Ясмін»**, маст. фільм
**13:35** Эксперт (сатырыч.праграма)
**14:05** Невядомая Беларусь: «Гульня ў вайнушку», дак. фільм, рэж. Антон Цялежнікаў, 2009 г., Польшча
**14:50** ПраСвет
**15:15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**15:45** Моўнік
**15:55** Дакументальная гадзіна: «Дзеці рэвалюцыі»
**16:55** Форум (ток-шоу)
**17:40** Відзьмо-невідзьмо выд. 19
**18:05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»)
**18:35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма)
**18:50** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!»
**19:00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір)
**19:15** Студыя «Белсат»: Дэвайс
**19:20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў
**19:30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар
**20:00** Студыя «Белсат»: Навіны
**20:10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры
**20:15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал (эканамічная праграма)
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Не прапусці! (парарднік гледача)
**21:30** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Ясмін»**
**23:40** Студыя «Белсат»
**1:15** Асабісты капітал (эканамічн.праграма)
**1:35** Аб'ектыў
**2:05** Не прапусці! (парарднік гледача)
**2:25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма)

